*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2018, № 10(32). Кастрычнік

## Помнік Льву Сапегу ў Слоніме будзе, але ці ўдала выбралі месца?

Гісторыя, якая пачалася ў 1990-я гады, можа хутка скончыцца. Мясцовыя ўлады не адмовіліся ад ідэі ўсталяваць у Слоніме помнік Льву Сапегу (1557 — 1633), слонімскаму старосце, канцлеру вялікаму літоўскаму, буйному дзяржаўнаму дзеячу ВКЛ. 9 кастрычніка 2018-га Слонімскі раённы выканаўчы камітэт прыняў *“Палажэнне аб арганізацыі і правядзенні конкурса эскізных праектаў помніка Льву Сапегу”*. Конкурсныя матэрыялы прымаюцца да 15 лістапада. Скульптуру збіраюцца зрабіць з чугуна, пакрытага бронзай. Дарэчы, Леў Сапега не быў слонімскім старостам да сваёй смерці, як вынікае з дакумента выканкама і некаторых публікацый у мясцовым друку. З 1605-га староста — яго старэйшы сын Ян Станіслаў Сапега (1589 — 1635).




*Працяг на ст.3.*

## Падарожнікі распавядаюць пра Слонімшчыну ў другой палове XVII стагоддзя

Здаўна праз нашу зямлю праходзіць адзін са шляхоў з Захаду на Усход і наадварот. Цяпер гэта чыгунка і аўтадарогі, а сотні гадоў таму замежнікі падарожнічалі на конях. Каб дабрацца з Францыі да Масковіі, трэба было правесці ў дарозе многія месяцы. Але вандроўнікі не сумавалі, бо хапала прыгодаў, новых знаёмстваў, розных кур’ёзных здарэнняў. Падчас адпачынкаў ракой ліліся мёд, піва і гарэлка. У корчмах можна было даведацца навіны, выслухаць парады, знайсці патрэбнага чалавека.

Хто толькі не праязджаў праз Слонімшчыну і не спыняўся тут на адпачынак! Рэгулярна бывалі ў нас замежныя дыпламаты, пра што “СК” пісаў неаднаразова.[1]

На гэты раз мы распавядзем пра візіты на слонімскую зямлю чэха Бернгарда Танера і маскавіта Пятра Талстога, якія адбыліся ў далёкія 1678-ы, 1697-ы і 1699-ы гады. Іх сведчанні важныя, паколькі падарожнікі апісваюць Слонім праз некалькі дзесяцігоддзяў пасля маскоўскай акупацыі 1655-1660 гадоў. У тыя жахлівыя гады замак і прылеглыя будынкі былі спаленыя. Аднаўленчыя працы ішлі пасля 1660 года і хуткімі тэмпамі. Калі верыць успамінам Танера,


LEGATIO
POLONO-LITHUANICA
IN
MOSCOVIAM
POTENTISSIMI
POLONIÆ REGIS
AC
REIPUBLICÆ
Mandato & Consensu
Anno 1678. feliciter suscepta,
Nunc
...
Teste oculato
BERNHARDO LEOPOLDO FRANCISCO TANNERO
Boemo Pragensi, ...
NORIMBERGÆ,
Sumptibus JOHANNIS ZIEGERI
Anno 1689.

*Працяг на ст.4.*

# Свята на Вясенняй вуліцы

40-гадовы юбілей Вясенняй вуліцы ў Слоніме адзначылі 22 верасня яе жыхары. Яна ідзе паралельна Чырвонаармейскай вуліцы ад Кветкавага завулка (ён знаходзіцца насупраць крамы “Белая ромашка”) да ўскраіны горада ў напрамку Жыровічаў. Дзясяткі чалавек сабраліся на канцэрт, які праходзіў недалёка ад іх дамоў.

# Падарунак да юбілею

У Гродне выйшла чарговая кніга Сяргея Чыгрына — “Жыву Бацькаўшчынай”. У ёй сабраная інфармацыя пра кнігі краязнаўцы, літаратуразнаўцы і паэта за шмат гадоў яго творчай дзейнасці. Гэта своеасаблівы бібліяграфічны паказальнік. Гэтай кнігай Чыгрын зрабіў сабе выдатны падарунак да 60-годдзя, якое адзначыў у верасні.




ХРОНІКА

# Мемарыяльны знак каля слонімскай міліцыі




5 кастрычніка каля будынка Слонімскага РАУС па Брэсцкай вуліцы быў урачыста адкрыты мемарыяльны знак, прысвечаны супрацоўнікам, загінулым “пры выкананні воінскага і службовага абавязку”. На ім чатыры прозвішчы — Васіля Дмухоўскага (1913 — 1943), Аляксандра Міхальчыка (1909 — 1945), Мікалая Мароза (1920 — 1946) і Васіля Лаўрашчука (1961 — 1992). У мерапрыемстве ўдзельнічалі міліцыянеры, ветэраны органаў унутраных спраў, кіраўніцтва мясцовых уладаў. Раней на будынку міліцыі ўжо была шыльда ў памяць Міхальчыка, які загінуў падчас ліквідацыі атрада “лясных братоў” у раёне Плаўскіх.

●ГГ




# На Зялёнай вуліцы аднавілі будынак

20 верасня на Зялёнай вуліцы прайшло ўрачыстае адкрыццё пасля рэканструкцыі будынка Слонімскага міжраённага аддзела Дзяржкамітэта судовых экспертызаў. Ён быў пабудаваны ў 1955-м і выкарыстоўваўся вайскоўцамі. Перадача адбылася зімой 2017 года. Будынак істотна абнавілі (замянілі вокны, зрабілі гідраізаляцыю падмурка). Было ўсталяванае сучаснае абсталяванне. Напрыклад, там ёсць адзіная ў Гродзенскай вобласці прылада кантроля сапраўднасці дакументаў. Абсталяванне ў наш горад прывёз старшыня ДКСЭ Андрэй Швед.

# Помнік Льву Сапегу ў Слоніме будзе, але ці ўдала выбралі месца?

*Працяг, пачатак на ст.1.*



Праект устаноўкі гэтага помніка ўпершыню паўстаў у канцы 1990-х. Гэта была грамадская ініцыятыва. Але праект не быў рэалізаваны з-за адсутнасці неабходных фінансавых сродкаў. Далей помнікам цікавіліся мясцовыя ўлады, скульптар, наш зямляк Іван Міско быў гатовы яго стварыць, былі спробы сабраць грошы. Але і ў чыноўнікаў нічога не атрымалася.

Ішлі гады. У лютым 2016-га прадстаўнік слонімскіх уладаў абяцаў, што помнік з'явіцца ўжо ў тым годзе. Але ў кастрычніку было заяўлена, што з-за адсутнасці грошай наўрад ці яго ўсталююць у 2017-м. Улады, нібыта, шукалі спонсараў.[1]

У канцы 2016-га тагачасны старшыня райвыканкама Алег Таргонскі паабяцаў, што помнік з'явіцца ў першай палове 2017-га. Кіраўнік лічыў, што самым удалым месцам для яго была б плошча Леніна.[2] У той час "Беларусь сегодня" зрабіла здымкі эскізу помніка Сапегу ў майстэрні скульптара Міско.[3]

Але ў траўні 2017-га стала вядома, што помнік збіраюцца ўсталяваць у скверы па Першамайскай вуліцы (у інтэрнэце праводзілася апытанне наконт месца ўсталявання). Па-ранейшаму канчатковага рашэння не было. Адзначалася перагружанасць сквера помнікамі (у адным яго канцы стаіць помнік Леніну, у іншым — танк).[4] У 2017-м помнік Сапегу ў Слоніме не з'явіўся.[5]

І нарэшце ў пачатку сакавіка 2018 года стала вядома, што помнік з'явіцца да 1 верасня 2019 года, да рэспубліканскага свята "Дзень беларускага пісьменства і друку", якое пройдзе ў нашым горадзе. Таргонскі паведаміў, што ёсць узгадненне з Мінкультуры і будзе аб'яўлены конкурс эскізных праектаў. Стала вядома, што з месцам устаноўкі пэўнасці яшчэ няма, яго будуць выбіраць.[6]

Восеннню 2018-га неспадзявана высвятлілася, што месца для ўсталявання помніка ўлады ўжо выбралі. У згаданым дакуменце выканкама адзначаецца: *"Месца ўсталявання — гарадскі парк па вуліцы Опернай"*.[7] Варыянт не самы горшы, улічваючы, што побач будуць Замчышча і Малы канал Агінскага, месца, дзе стаяў оперны тэатр. У будучыні гэты раён горада можа стаць кропкай прыцягнення турыстаў, але трэба разбудоўваць інфраструктуру.

Значна лепшым варыянтам быў бы сквер на цяперашняй плошчы Леніна. Праўда, яе давялося б перайменаваць (напрыклад, у Тэатральную плошчу), у што ў цяперашніх рэаліях слаба верыцца. Інакш суседства Сапегі і Леніна выглядала б недарэчным.

Некаторыя краязнаўцы кажуць, што не важна, дзе паставяць помнік старосце Льву Сапегу, абы толькі яго ўсталявалі. Для Слоніма гэта будзе вялікая падзея. Гэта тое, што застанецца, што будзе нагадваць нашым нашчадкам пра слаўтую гісторыю малой радзімы.

●Сяргей Ёрш

*[1] Помнік Льву Сапегу зноў пад пытаннем // Слонімскі край, 2016, № 10. Лістапад. С. 2.*
*[2] Сёлета ў Слоніме ўсталююць помнік Льву Сапегу // Слонімскі край, 2017, № 1(11). Студзень. С. 9.*
*[3] Скульптару Івану Міско споўнілася 85 гадоў // Слонімскі край, 2017, № 3(13). Сакавік. С. 1.*
*[4] Помнік Сапегу на Першамайскай вуліцы ў Слоніме // Слонімскі край, 2017, № 6(16). Чэрвень. С. 2.*
*[5] Слонім без помніка Льву Сапегу // Слонімскі край, 2017, № 12(22). Снежань. С. 2.*
*[6] СЧ. Названая дата ўсталявання помніка Льву Сапегу ў Слоніме // Слонімскі край, 2018, № 3(25). Сакавік. С. 2.*
*[7] Положение об организации и проведении конкурса эскизных проектов памятника Льву Сапеге // http://www.slonves.by/2018/10/polozhenie-ob-organizacii-i-provedenii-konkursa-jeskiznyh-proektov-pamjatnika-lvu-sapege/*

Усе нумары "Слонімскага краю" за 2016-2018 гады можна знайсці тут: http://kamunikat.org/

# Падарожнікі распавядаюць пра Слонімшчыну ў другой палове XVII стагоддзя

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

у 1678 годзе ў Гродне, у Палонцы былі руіны, у Слоніме і Жыровічах ён іх не пабачыў.

*"Жыццё Слоніма склалася з больш трывалых элементаў, таму пасля заканчэння вайны, у той час, калі [ў Беларусі] заўважаецца паўсюдны заняпад гарадскога жыцця, ад якога многія гарады не аднавіліся да цяперашняга часу, Слонім, дзякуючы свайму моцнаму арганізму, вытрымаўшы выпрабаванне, хутка ўваходзіць у колішнюю каляіну свайго дабрабыту",* — пісаў праз 200 гадоў даследчык Павел Баброўскі.[2]

Чэх Бернгард Леапольд Францыск Танер прыехаў з Прагі ў Рэч Паспалітую ў 1676 годзе. Ён пачаў служыць у князя Міхала Ежы Чартарыйскага (1621 — 1692), віцэ-маршалка Галоўнага трыбуналу кароннага. Разам з ім у лютым 1678 года з Польшчы выправіўся ў падарожжа ў Масковію. Іншым кіраўніком пасольства быў князь Казімір Ян Сапега (1637/1638 — 1720), полацкі ваявода, будучы гетман вялікі літоўскі.

Па дарозе на ўсход у Слонім яны не заязджалі, але пабывалі ў Жыровічах і Шылавічах. У пачатку восені таго ж года пасольства вярнулася ў Рэч Паспалітую. Тады яно і пабывала ў нашым горадзе. Неўзабаве чэх вярнуўся ў Прагу, напісаў успаміны, якія выдаў у 1689 годзе ў Нюрнбергу на лытыні пад назвай *"Legatio Polono-Lithuanica in Moscoviam etc."* ("Польска-літоўскае пасольства ў Маскве і іншае"). Пераклад на беларускую намі зроблены з наступнага перавыдання: *"Бернгардъ Таннеръ. Описаніе путешествія польскаго посольства въ Москву въ 1678 году"* (Масква, 1891).



### Трушчобы ў Глоўсевічах і бочка піва ў Шылавічах

З Польшчы пасольства выехала 11 лютага 1678 года. 19 лютага яно ўжо было ў Сяльцы, дзе папоўніла запасы (піва, мёд, гарэлка, мяса, корм для коней). На наступны дзень падарожнікі дабраліся да Ружанаў, там начавалі, а кухар учыніў пажар у адным з будынкаў, гатуючы ежу. Раніцай 21 лютага абоз дабраўся да "Дзевінкавічаў". Найхутчэй гэта Дзявяткавічы. Там удзельнікі пасольства паабедалі і паехалі далей. У "Класовічах" (відаць, Глоўсевічах) яны начавалі. Напэўна, прытулак быў вельмі нязручны, бо менавіта ў гэтым месцы Бернгард Танер піша:

*"Нам ужо сталі сустракацца такія прытулкі, якія былі падобныя хутчэй на трушчобы, чым на дамы ці хаціны: у кожным такім памяшканні адзін пакой, вельмі*

*цесны, які пачарнеў ад печы, якая знаходзіцца ўнутры, і дыму, з вокнамі (больш правільна — з дзіркамі), у якія і чалавечая галава не пралезе. Пакой цёмны, больш таго, поўны назойлівымі насякомымі, ад якіх губляеш усялякае цярпенне. І называецца гэта гучным імем гасцініцы.*

*Пасля нашых пакутаў у некалькіх падобных трушчобах, князь вырашыў пакуль спыніцца ў Жыровічах для пакланення цудатворнай іконе Божай Маці ва ўніяцкім базыльянскім манастыры. Памаліўшыся, мы пераехалі раку Шчару і ў паселішчы Шылавічы палічылі патрэбным прабыць некалькі даўжэй для аднаўлення стомленых неперарыўным падарожжам сіл. У гэты дзень, 22 лютага, даводзілася яшчэ і заканчваць масляніцу. Князь на развітанне з ёй, каб яшчэ развітацца і з мясам, у якім недахоп быў значны, загадаў купіць тоўстага быка, яго забіць і падзяліць з дадаткам немалой колькасці мёду і гарэлкі ды прывезенай з-за паўтары мілі бочкі піва* [са Слоніма?], *так што выпілі ўсе парадкам.*

*Настаў дзень попелу*[3], *і мы па нязручнай дарозе, зноў драмучым лесам, прыехалі ў горад Палонку".*

### У слонімскім замку п'яныя гайдукі скралі рэчы з пасольскага абозу

Вяртаючыся, 22 верасня пасольства пераначавала ў Палонцы. *"З золкам праехалі 4 мілі да добрага горада Слоніма, які належыць найсвятлейшаму Сапегу, падскарбію вялікага княства літоўскага*[4], *брату яснавяльможнага пасла*[5], — піша Бернгард Танер. — *Прынятыя ім вельмі ветліва, мы павінны былі тут начаваць 23 верасня. Слугі, асабліва гайдукі, якія вартавалі рэчы, знайшлі тут выпадак напіцца і пачалі красці адзін у аднаго. Уначы з фурманкі ў краўца скралі скрыню, у іншых — мяхі з рэчамі. Князь* [Чартарыйскі] *двух гайдукаў Будзілу з Альшанскім, хвацкіх п'яніцаў, якія вартавалі фурманку, загадаў замест абеду высекчы, каб хоць неяк задаволіць абкрадзеных. Адсюль мы рушылі праз Сялец, Пружану…".* Падкрэсліваем, што падарожнік, які праехаў усю Рэч Паспалітую, назваў Слонім "добрым" горадам. Відавочна, што раны, пакінутыя жахлівай вайной, ужо загаіліся.



Казімір Ян Сапега




Слонімскі староста Бенедыкт Павел Сапега

### Рукапіс графа Талстога

Граф Пётр Талстой (1645 — 1729) — расійскі дзяржаўны дзеяч, дыпламат, кіраўнік тайнай канцылярыі імператара Пятра I. У 1697 годзе цар паслаў групу маладых дваран для навучання ў Еўропу. З імі захацеў паехаць і 52-гадовы Талстой. У Венецыі ён два гады вывучаў марскую справу. Вярнуўся на радзіму ў 1699-м. А праз два гады граф стане першым расійскім паслом-рэзідэнтам, працаваў у Канстантынопалі. У канцы жыцця быў рэпрэсаваны, памёр у салавецкай турме.



Граф Пётр Талстой

Дзённік падарожжа Пятра Талстога быў апублікаваны ўжо пасля яго смерці. У дваранскіх бібліятэках захаваліся тры варыянты рукапісу. Першая публікацыя з'явілася ў 1888 годзе, але самая дакладная адбылася ў 1992-м.[6] З апошняй намі і быў зроблены пераклад урыўкаў, прысвечаных Слонімшчыне. Талстой пакінуў вельмі цікавае апісанне замка ў Слоніме, які з XVI стагоддзя знаходзіўся на цяперашнім Замчышчы каля Опернай вуліцы. Ад пачатку ён быў драўляным, умацаваным валамі і равамі з вадой.

*Працяг на ст.6*

# Падарожнікі распавядаюць пра Слонімшчыну ў другой палове XVII стагоддзя

*Працяг, пачатак на ст.1,4-5.*



Земляны замак у Слоніме

*"Красавіка ў 21 дзень* [1697 года]. *Прыехаў абедаць у горад Слонім, ад стану [папярэдняга месца адпачынку] 3 мілі, ад горада Міра 13 міль польскіх, а маскоўскіх 65 вёрстаў; ад Масквы да Слоніма 930 вёрстаў*[7], — піша Талстой. — *Горад Слонім — месца немалое, а будынка ў ім добрага, вялікага няма; стаіць на рацэ Шчары. Шмат у тым горадзе дамоў яўрэйскіх. Той горад — маёмасць маці гетмана* [вялікага] *літоўскага пана* [Казіміра Яна] *Сапегі. У тым горадзе і дом яе ёсць, вакол дома зроблены замак земляны, харомы драўляныя, старажытнай будоўлі, немалыя былі і здрахлелі. У тым горадзе 3 кляштары рымскія: адзін паненскі, гэта значыць дзявочы, бернардзінскага закону; другі — мужчынскі, дамініканскага закону; у трэцім жывуць канонікі [латэранскія], якія ходзяць у белым таксама, як і дамініканы, а наверсе носяць кароткія плашчыкі белыя ж, падобныя да кароткіх мантый. У гэтым жа горадзе яшчэ ёсць кляштар каменны — бернардынскі мужчынскі. І таго чысла начаваў у Слоніме.*

*Красавіка ў 22 дзень. Паехаўшы са Слоніма, прыехаў абедаць у маёнтак падстаросты ваўчэнскага пана Жукоўскага, у мястэчка Івашкавічы, ад Слоніма 4 мілі, і пад тым мястэчкам пераехаў на пароме праз раку Зэльву* [Зэльвянку]*".*

"Земляны замак" — гэта валы на Замчышчы. Можна зразумець, што ранейшы драўляны замак, спалены падчас вайны, не быў адноўлены (на валах не было драўляных сценаў і вежаў). На яго месцы ўзвялі вялікі дом, у якім жылі Сапегі. Вакол яго па перыметры валоў стаялі драўляныя будынкі, як жылыя, так і гаспадарчыя. Талстой піша, што харомы былі "старажытнай будоўлі" і "здрахлелі". Будынкам не магло быць больш за чатыры дзясяткі гадоў. Магчыма, што іх узводзілі на пажарышчы не з лепшага матэрыялу і кепска даглядалі.

На ўніяцкім набажэнстве ў Жыровічах

На радзіму граф вяртаўся амаль праз два гады. На гэты раз ён у Слонім не заязджаў, але пабываў у Жыровічах.

*"Студзеня ў 6 дзень* [1699 года]. *Прыехаў абедаць у мястэчка Ражану* [Ружаны]…— піша Пётр Талстой. — *Тое мястэчка вялікае гетмана літоўскага Сапегі, жывуць у ім усе ўніяты, адна царква каменная ўніяцкая, а іншая драўляная рымская. Таго ж чысла прыехаў начаваць у вёску Дзевяткавічы, ад Ражаны 3 мілі польскіх.*

*Студзеня ў 7 дзень. Прыехаў абедаць у Журавічы* [Жыровічы], *ад Дзявяткавіч 2 мілі польскіх. У Журавічах ёсць манастыр уніяцкі, у тым манастыры царква вялікая, каменная. У той царкве стаіць цудатворчы абраз Прасвятой Багародзіцы Журавіцкай* [Жыровіцкай]*: ікона самая малая, круглявая, ненашмат большая за яфімка*[8], *зроблена майстэрствам разным на камяні, на аспідзе. Стаіць тая ікона на правым баку царскіх дзвярэй, упрыгожаная золатам, і камянёў (алмазаў, яхонтаў, ізумрудаў, лалаў) каля той іконы ў аздобе нямала. Быў я ў той царкве падчас літургіі, служыў абедню святар уніяцкі на вялікім прастоле ў алтары з дзякам на славенскай мове.*[9] *Спяваюць там па-кіеўску, спявалі пры мне падчас той літургіі партэс на хорах на 8 галасоў. У той жа царкве шмат зроблена перад святымі іконамі прастолаў рымскіх. Паслушнікаў у тым манастыры 50 чалавек, усе ўніяты. Адзенне носяць як манахі грэцкага закону, і называюцца тыя манахі базыльяне, гэта значыць за-*

*кону Васіля Вялікага. І быў я ў тым манастыры ў настаяцеля ў келлі. У тым жа манастыры ёсць іншая каменная царква, у той царкве камень, на якім з'явіўся вышэй апісаны цудатворнай Прасвятой Багародзіцы абраз, і шмат чаго* [іншага]. *Расказваюць, што ад таго камені хворыя вылечваюцца.*

*Таго ж чысла прыехаў начаваць у вёску Палонку, ад Журавічаў 2 мілі польскіх".*

Падрыхтаваў ●Сяргей Ёрш

*[1] Гурскі Г.: У 1477 годзе Слонім наведаў пасол Венецыянскай рэспублікі // Слонімскі край, 2017, № 2(12). Люты. С. 16; Пра здарэнне з пасольствам Свяшчэннай Рымскай імперыі каля Слоніма ў 1699 годзе // 2017, № 4(14). Красавік. С. 20; Як на Замосці ў Слоніме ў 1652 годзе збілі маскоўскага пасла // 2017, № 5(15). Травень. С. 20; Праз Слонім з сакрэтнай місіяй // 2017, № 6(16). Чэрвень. С. 17; У Слоніме маскоўскіх паслоў трымалі пад вартай // 2017, № 7(17). Ліпень. С. 9.*

*[2] Бобровский П. Город Слоним и примечательные места Слонимского уезда // Вестник Западной России (Вільня), 1866. Т. 4., Кн. 12. С. 164.*

*[3] Папяльцовая серада. У рыма-каталікоў ёй пачынаецца 40-дзённы Вялікі пост. У гэты дзень вернікам трэба ўстрымлівацца ад мясных страваў.*

*[4] Маецца на ўвазе Бенедыкт Павел Сапега (1643 — 1707), слонімскі староста.*

*[5] Казіміра Яна Сапегі.*

*[6] Толстой П.А. Путешествие стольника П.А. Толстого по Европе. 1697-1699. — Москва, 1992.*

*[7] Польская міля — 8534 метры, 8 вёрстаў. Руская міля — 7468 метраў, 7 вёрстаў. Вярста — 1066,7 метра.*

*[8] Так у Маскові называлі заходнееўрапейскі сярэбраны талер.*

*[9] На беларусізаванай царкоўнаславянскай мове.*

# Бернардзінцы, не маючы дроваў, палілі кнігі



У XIX стагоддзі кнігі з бібліятэк у Беларусі палілі не толькі рускія вайскоўцы*, але і мясцовыя жыхары. Валянцін Грыцкевіч і Адам Мальдзіс яшчэ ў савецкія часы надрукавалі пра гэта ўрывак з успамінаў гісторыка, прафесара Віленскага ўніверсітэту Ігната Анацэвіча (1780 — 1845).** Ён быў ураджэнцам Гродзеншчыны. Дзесьці ў 1820-я гады Анацэвіч ездзіў па ёй і апісваў прыватныя біяблітэкі мясцовых магнатаў, кляштароў. Прафесар сцвярджаў, што слонімскія бернардзінцы адносіліся да рукапісных скарбаў па-варварску:

*"Добрыя айцы бернардзінцы, не маючы дастаткова дроў, аддалі ў ахвяру полымю старыя фаліянты, а астатняя частка кніг ціха спачывае на паддашку разам з рэшткамі французскай кірасірскай амуніцыі і палкавымі паперамі. Паколькі гэтыя кнігі не раскладзены па парадку і няма іх каталога, то я, прабіраючыся па грудах тварэнняў чалавечага розуму, не мог многімі карыстацца".*

Грыцкевіч і Мальдзіс пішуць, што сярод дзвюх тысяч кніг, якія марнелі ў кляштары, Ігнат Анацэвіч паспеў заўважыць рэдкія выданні XVI і XVII стагоддзяў. На жаль, невядома, які быў іх лёс.

●Генадзь Гурскі

**Гурскі Г. Як расійскія ўлады знішчалі ў Слоніме архівы і бібліятэкі // Слонімскі край, 2017, № 12(22). Снежань. С. 11.*

***Грыцкевіч А., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь: Нарыс. — Мінск, 1980. С. 142-143.*



ЗЕМЛЯКІ

# Успамін пра доктара з Чамяроў

Успамін паэта Сяргея Новіка-Пеюна пра вядомага доктара медыцынскіх навук, прафесара, акадэміка, заслужанага дзеяча навук Беларусі Андрэя Пракапчука (1896 — 1970) захоўваецца ў маім хатнім архіве ўжо 30 гадоў. З Сяргеем Міхайлавічам я быў добра знаёмы, шмат разоў з ім сустракаўся, перапісваўся, бываў у яго маленькай мінскай кватэры. Ён мне дасылаў тое, пра што я ў яго пытаўся. Асабліва мяне цікавілі розныя звесткі пра слонімцаў. Пра адных ён сам збіраў матэрыялы, з іншымі быў добра знаёмы, сустракаўся, сябраваў. Сяргей Новік-Пяюн быў вельмі задаволены, што знайшоўся малады чалавек, які цікавіўся гісторыяй Слонімшчыны, яе культурай і лёсам землякоў. Таму ён са мной дзяліўся матэрыяламі шчыра і дапамагаў у пошуках.

Неяк пры сустрэчы ў Слоніме мы пачалі прыгадваць нашых знакамітых землякоў. Прыгадалі і доктара медыцынскіх навук Андрэя Якаўлевіча Пракапчука з Чамяроў. Праз пэўны час Сяргей Міхайлавіч прыслаў мне згадку пра яго. Гэтыя ўспаміны яшчэ нідзе не друкаваліся. Сёння чытачы нашага выдання з імі пазнаёмяцца ўпершыню. Публікуюцца ўспаміны пра Андрэя Пракапчука так, як іх напісаў аўтар у тыя далёкія ўжо 1980-я гады.



Андрэй Пракапчук

●Сяргей Чыгрын

# Пра Андрэя Пракапчука

У лістападзе 1918 года нямецкія акупанты пакінулі Нясвіж. Жыхары горада чакалі прыходу бальшавікоў. У канцы горада, на “новым месце”, уздоўж Слуцкай вуліцы выстраіліся вучні і настаўнікі Нясвіжскай мужчынскай гімназіі, Нясвіжскай жаночай гімназіі, Вышэйшага начальнага вучылішча і семінарысты Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Я быў гімназістам другога класа.



Аўтар успамінаў
Сяргей Новік-Пяюн

Раніца была сонечная, блакітнае неба без хмараў. Было сцюдзёна, на бруку ляжаў мокры снег, асабліва мерзлі ногі ў старэнькіх чаравіках. Мы доўга стаялі і пільна ўглядаліся на Слуцкі гасцінец, спадзеючыся, што адтуль будуць ісці бальшавікі. Ажно ўбачылі з Клецкага гасцінца атрад ланьскіх партызанаў у шэрых салдацкіх шынелях, на чале якога цвёрдым крокам ішоў настаўнік школы сяла Лань Андрэй Якаўлевіч Пракапчук з разгорнутым чырвоным сцягам у руках. Моцнымі воплескамі мы сустрэлі партызанаў. Так у Нясвіжы аднавілася савецкая ўлада.

Андрэй Якаўлевіч Пракапчук стаў ваенным камісарам горада Нясвіжа. Высокі, стройны, ён асабліва прыгожа выглядаў, калі ехаў вярхом на каштанавым кані.

Андрэй Якаўлевіч сябраваў з маёй стрыечнай сястрой Насцяй Чычко і таму ён часта бываў у нас. Мне Андрэй Якаўлевіч падараваў суконную салдацкую гімнасцёрку, у якой я хадзіў у гімназію.

Ваенруком у нашай гімназіі быў настаўнік Павел Фёдаравіч Казак, які займаўся з намі ваеннай падрыхтоўкай. Ён сябраваў з Андрэем Якаўлевічам. Падчас польска-савецкай вайны Андрэй Пракапчук выехаў у савецкую Расію...

Пасля доўгіх дзесяцігоддзяў я ўбачыў прафесара-дэрматолага Андрэя Якаўлевіча Пракапчука на ўрачыстым пасяджэнні Акадэміі навук БССР у Мінску, прысвечаным 80-годдзю Янкі Купалы. Ён сядзеў у першым радзе побач з пляменніцай Янкі Купалы Ядвігай Юліянаўнай Раманоўскай.

Апошні раз я ўбачыў доктара Пракапчука ў Мінскім аэра-

КНІГАРНЯ

# У польскі каталог трапілі слонімскія паштоўкі




У 2009 годзе ў польскім горадзе Седльцы выйшаў цудоўны фотальбом Славаміра Кардачука “Адзінкі Войска Польскага. 1918-1939”.* У выданне ўвайшоў каталог паштовак Седліцкага клуба калекцыянераў. Гэтая структура іх выдавала ў розны час. Напрыклад, тры паштоўкі, што адносяцца да Слонімшчыны, надрукаваныя ў 2006-м. Яны з калекцыі Багуслава Мітуры. Здымкі былі зроблены каля 1930 года ў раёне Слоніма на палявых занятках вайскоўцаў. У 1920-я-1930-я гады ў нашым горадзе дыслацыраваліся 79 пяхотны полк імя Льва Сапегі і 80 пяхотны полк імя наваградскіх стралкоў.

●Сяргей Чыгрын

*Kordaczuk S. Jednostki Wojska Polskiego 1918-1939. Katalog pocztówek Siedleckiego Klubu Kolekcjonerów. — Siedlce 2009.*










У міжваенны час у слонімскіх падраздзяленнях польскага войска служылі не толькі нашы землякі, але і ўраджэнцы іншых рэгіёнаў тагачаснай Польшчы.

# Пра Андрэя Пракапчука

*Працяг, пачатак на ст.8*

порце. Ён быў разам з жонкай у зале чакання аэравакзала…

На самай дзяржаўнай польска-савецкай мяжы ў вёсцы Лазавічы Нясвіжскага раёна жыў былы ваенрук нашай Нясвіжскай мужчынскай гімназіі, настаўнік, мастак, скрыпач Павел Фёдаравіч Казак. Ён быў актыўным падпольшчыкам, часта пераходзіў мяжу, наведваў Слуцк. Па даносе здрадніка Павел Фёдаравіч быў схоплены агентамі польскай дэфензівы і праседзеў чатыры гады ў наваградскай турме. Пасля ён быў аддадзены пад нагляд паліцыі і высланы з Лазавіч.

Я сябраваў з Паўлам Фёдаравічам Казаком, які пры савецкай уладзе працаваў дырэктарам Дубейкаўскай школы Нясвіжскага раёна. Ведаючы, што ён сябраваў з Андрэем Пракапчуком, некалькі гадоў таму я спытаў у яго, ці мае ён фотаздымкі Пракапчука. Ён адказаў, што меў, але ўсе фотаздымкі і дакументы ён перадаў у музей Сноўскай сярэдняй школы Нясвіжскага раёна.

●Сяргей Новік-Пяюн,
*18 жніўня 1988 года*

# Беларускамоўны артыкул Язэпа Стаброўскага пра слонімскага ідала

У архіве слонімскага гісторыка і археолага Васіля Супруна ёсць папка пад назвай “Археалагічныя матэрыялы і допісы (1963-1966 гг.)”.* У ёй знайшлася выразка артыкула заснавальніка слонімскага краязнаўчага музея, археолага Язэпа Стаброўскага пад назвай “Цікавая археалегічная знахадка”. Апублікаваны ён быў у мінскай газеце “Голас вёскі” дзесьці ў верасні 1943 года (дакладнай даты і нумару няма, з часам яе ўдакладнім). Артыкул цікавы і грунтоўны, у гэтым нумары “СК” мы яго цалкам передрукоўваем (з мінімальнымі праўкамі, у адпаведнасці з сучасным правапісам).

Стаброўскі неаднаразова пісаў на гэтую тэму.** Ён разважаў пра паходжанне слонімскага ідала: *“Увядзенне хрысціянства суправаджалася знішчэннем ідалаў і паганскіх рэлігійных абрадаў, што ў сваю чаргу выклікала ў ідалапаклоннікаў неабходнасць хаваць сваіх багоў ад апаганьвання”.****

Цікава, што ў артыкуле Язэп Стаброўскі не называе год, калі была зроблена знаходка. У навуковай літаратуры звычайна пазначаны 1934-ы (напрыклад, у публікацыях Людмілы Дучыц, у тым ліку і ў “Энцыклапедыі гісторыі Беларусі”). Дзіўна, што ў слонімскім музеі названая іншая дата — 1937 год.

Васіль Супрун удакладняе, што каменны ідал быў знойдзены “на тэрыторыі прыгарада Слоніма (Новы Свет) – правабярэжжа старога рэчышча Ісы”.**** Альбярцінская вуліца цяпер носіць імя касманаўта Юрыя Гагарына.

●Сяргей Ёрш


ГОЛАС ВЁСКІ

Археолёг Язэп Стаброўскі

ЦІКАВАЯ АРХЕАЛЕГІЧНАЯ ЗНАХАДКА

## Цікавая археалагічная знаходка

У ваколіцах Слоніма, на выгане, дзе ніколі ніякіх будынкаў не было, а цяпер праведзена новая вуліца пад назвай Альбярцінская, у часе капання месца для падмурку пад жыллёвы дом, на глыбіні прыблізна паўметра была знойдзена каменная галава. Гэтая галава цяпер знаходзіцца ў Слонімскім гістарычна-краязнаўчым музеі.

Знойдзены аб’ект высечаны з ракавістага вапняка, які не сустракаецца ў суседняй мясцовасці. Ягоная вышыня 46 см (даўжыня галавы 22 см, шырыня — 15 см). Гэтая мужчынская галава мае плоскі твар, вялікія скулы, шырокі прыплюшчаны нос, без вусоў, завостраную бараду — ярка выражаныя рысы ўсходняга тыпу. Шыя ў гэтай галавы мае выгляд кліну, што дае падставу меркаваць, быццам яна спецыяльна так зробленая, каб яе можна было ўставіць у пень дрэва або ў належна прыстасаванае выймо ў камені. Няма ніякіх падставаў дапусціць, што галава адбітая ад якой-небудзь статуі, бо ніякага злому няма, а клін зусім выразны.

Параўнанне знойдзенай галавы з фігурамі святых у суседніх касцёлах паказвае, што паміж імі няма абсалютна ніякага падабенства, бо названыя фігуры святых становяць заходні тып і зроблены з гіпсу або дрэва. Іншыя веравызнанні, як праваслаўнае, мусульманскае і яўрэйскае сурова забараняюць ужыванне ўсялякіх фігураў і рэльефаў для рэлігійных мэтаў.

Падобная да гэтай другая галава знойдзена на Памор’і.***** Гэтая акалічнасць да некаторай ступені тлумачыць, што гэтыя рэчы рэлігійнага культу выраблялісь дзесьці далёка на ўсходзе і пашыраліся па Вялікім водным шляху з “Варагаў у Грэкі”.

Наш край у X стагоддзі падначальваўся рускім князям Кіеўскім. У 990 годзе князь Уладзімір Святаслававіч па прыняцці хрысціянства развёўся з адной з сваіх жонак, прымусова ім узятай полацкай княгіняй Рагнедай (дачка князя Рагвалода) і адаслаў яе з сваім і ейным старэйшым сынам Ізяславам у Крывіцкія землі для хрышчэння іх у праваслаўную веру. Увядзенне хрысціянства

суправаджалася знішчэннем паганскіх святыняў і ўсялякіх рэчаў рэлігійнага культу, што, у сваю чаргу, выклікала клопаты ідалапаклоннікаў пра ахову сваіх багоў ад надругання. Вось чаму ёсць усе падставы меркаваць, што знойдзеная галава ў ваколіцах Слоніма была спецыяльна схавана ў зямлю ў глухім месцы, далёка ад усялякага жылля. Калі б гэта была галава фігуры каталіцкага святога, дык не было б патрэбы хаваць яе ў зямлю, бо хрысціянства паважала б яе. Апрача гэтага, каталіцтва з’явілася ў гэтай мясцовасці шмат пазней і ніколі асабліва не пераследавалася.

Як можна меркаваць паводле рускіх летапісаў, славянскія ідалы рабіліся пераважна з дрэва і таму не маглі ўцалець аж да сённяшняга дня. Паасобныя аб’екты, зробленыя з каменя, час ад часу ўсё ж знаходзяць і яны становяць вельмі цікавыя і вартасныя знаходкі, бо наагул міфалогія старажытных славянаў яшчэ належна не распрацавана, як з прычыны недахопу археалагічнага матэрыялу, так і ў выніку фантазіі старажытных гісторыкаў, якія не саромеліся выдумваць цэлую плеяду старажытнаславянскіх багоў, што, у сваю чаргу, прывяло да вялікай блытаніны ў гэтай галіне.

Няма сумніву, што ў Слонімскім і суседніх раёнах былі паганскія капішчы. Назва некаторых мясцовасцяў выразна сцвярджае гэтае дапушчэнне. Прыкладам, у ваколіцах горада Слоніма ёсць урочышча “Бажымаў” (Божая мова), размешчанае недалёка ад ракі Шчары, у гарыстай, жывапіснай мясцовасці, зарослай старымі дубамі, якія асабліва паважаліся старажытнымі славянамі. Наступным гэткім месцам




з’яўляецца хутар “Багуслаўцы” (Бога славіць) Рудніцкай воласці Пружанскага павету. Тут пакойны Багуслаў Крашэўскі, пляменнік пісьменніка Крашэўскага, асабіста знайшоў камень-ідал з жоўтага пясчаніка, вялічынёю з дзіцячую галаву. На гэтым ідале з трох бакоў быў зроблены чалавечы твар. Гэтая рэч хаваецца ў Варшаве ў сваякоў знайды і да гэтага часу належна не вывучана.

Цяжка пагадзіцца з думкаю прафесара Брукнера, які, абапіраючыся на вестках старой хронікі, мяркуе, што старажытна-славянскія багі рабіліся выключна з дрэва, бо ў гэтай хроніцы ўпамінаецца аб спальванні ідалаў. Гэтае меркаванне абвяргаецца згаданымі двума знаходкамі ідалаў з каменя і, калі прыгадаем старажытна-славянскага бога “Волоса”, знойдзенага ў Растове на Доне, і цэлы шэраг каменных “бабаў” з адной ці некалькімі галовамі, якія, бясспрэчна, часамі ўяўлялі сабой Бога, дык дапушчэнне хронікі траціць усялякае гістарычнае значэнне. Мне асабіста давялося бачыць у саборы горада Мцэнска Арлоўскай губ[ерні] каменнага ідала, дастанага з ракі Зушы і, насуперак царкоўным традыцыям, па жаданню прыхаджанаў пераўтворанага ў святога Мікалая ў аблачэнні і мітры, якія зусім не падыходзілі да прымітыўна зробленай фігуры балвана.

## Цікавая археалагічная знаходка

*Працяг, пачатак на ст.10-11.*

Нельга вызначыць назваў знойдзеных багоў. Толькі выходзячы з таго, што і да сённяшняга дня яшчэ ў нашай мясцовасці асабліва ўшаноўваецца Іван Купала (Ярыла) і Ілля Граманосец (Пярун), можна дапусціць з найбольшай верагоднасцю, што згаданыя знаходкі з'яўляюцца ўвасабленнем гэтых багоў.

Калі знаходка вядомага стараславянскага бога Святавіда ў р. Збручы выклікала незвычайную цікавасць сярод вучоных і палеміку, якая трывала амаль стагоддзе і яшчэ не закончаная да сённяшнага дня, дык мяркую, што знаходжанне двух вышэйзгаданых старажытнаславянскіх багоў у мясцовасці, аддаленай ад вялікіх населеных цэнтраў, сярод бязмежных лясоў і балотаў, становіць сабой надзвычайную навуковую цікавасць.

●Язэп Стаброўскі,
археолаг

**Рэдакцыя "Слонімскага краю" ўдзячная нашаму сталаму чытачу, аўтару Васілю Іванавічу Рубцу за магчымасць азнаёміцца з гэтымі і іншымі каштоўнымі архіўнымі дакументамі Васіля Рыгоравіча Супруна. Спадзяемся, што супрацоўніцтва працягнецца.*

***Гл.: Стаброўскі І. Каменная галава, знойдзеная ў Слоніме // Беларусь, 1946. № 4. С. 61–62.*

****Рукапіс Язэпа Стаброўскага пра паходжанне назвы Слоніма // Слонімскі край, 2016, № 6. Ліпень. С. 11.*

******Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 29.*

******Пра яе згадвае гісторык Зміцер Скварчэўскі, які піша, што "слонімскі ідал мае аналагі з паганскімі скульптурамі балтаў, напрыклад, з ідалам з Елічкі (Польшчы)". Гл.: Скварчэўскі З. Паганскія ідалы на тэрыторыі Беларусі // Сівер: "альманах вялікай поўначы". — Мінск, 2013. С. 76.*

# "Слонімскі край" у 2000 годзе




Наш месячнік "Слонімскі край" мае папярэдніка, які выходзіў у далёкім 2000 годзе. У лістападзе, а пасля ў снежні выйшлі два нумары часопіса, які меў такую ж назву (рэдактар і выдавец — Сяргей Ёрш). Гэта быў краязнаўчы квартальнік. Шмат у чым недасканалы: як па друку, так і па змесце. У той час яшчэ не хапала досведу і ведаў, каб рабіць больш якаснае выданне.

Наклад кожнага з нумароў быў 250 асобнікаў, аб'ём — 64 і 80 старонак адпаведна. У "СК" былі такія рубрыкі як "Асоба", "Даследаванні", "Археалогія", "Успаміны", "Літаратура", "Навіны кнігарні", "Хроніка". Як на цяперашні погляд, было зашмат передрукаў з іншых выданняў. Але хапала і цікавых арыгінальных тэкстаў. Сярод іх адзначу артыкулы Васіля Супруна "Першыя раскопкі ў Слоніме" (№ 1) і "Тунэль у Слоніме" (№ 2). Друкаваўся нарыс аўтара гэтых радкоў "Гісторыя слонімскага перыядычнага друку" (№ 1-2). Згадаю таксама даследаванне Аляксандра Талерчыка "Парэцкая царква" (№ 2), артыкул Сулеймана Байрашэўскага "Мусульмане на Слонімскай зямлі" (№ 2), успаміны Пятра Пархуты "З перажытага" (№ 2). Другі нумар быў відавочна больш удалым, чым першы.

Праект "СК" 2000 года — амбіцыйны, разлічаны на тэрыторыю ўсяго былога Слонімскага павета — гэта не толькі цяперашняя Слонімшчына, але і сумежныя тэрыторыі суседніх раёнаў. Часопіс вандраваў значна далей — і па Беларусі, і ў замежжа. Распаўсюджваўся ён бясплатна. Асобнікі нумароў захаваліся ў зборах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ў Мінску.

На жаль, "Слонімскі край" спыніў выхад у канцы 2000 года, у сувязі з пераездам рэдактара і выдаўца ў Мінск. Трэці нумар, які рыхтаваўся, ужо не пабачыў свет. Адзін з яго тэкстаў быў змешчаны ў новым "СК"*, які быў распачаты ў пачатку 2016 года.

●Сяргей Ёрш

**Супрун В. З успамінаў пра даследаванні Жыровіцкай святыні // Слонімскі край, 2016, № 2-4.*

# Прастытуцыя ў Слоніме ў XIX стагоддзі



Прастытуцыя ў Расійскай імперыі была фактычна легалізаваная ў 1840-1860-я гады (працэс ішоў паэтапна, пастановы прымалі розныя органы ўлады). Змаганне з ёй было прызнана бесперспектыўным. Меркавалася, што легалізацыя дапаможа спыніць распаўсюджанне венерычных захворванняў, паколькі прастытутак мусіў рэгулярна аглядаць лекар. Існавалі правілы, якія патрабавалі сачыць за асабістай гігіенай.

Працавалі прастытуткі як у публічных дамах, так і індывідуальна. Кантроль звычайна выконвала мясцовая паліцыя. Значнай часткай кліентаў былі вайскоўцы. Даследчыкі Вольга Сабалеўская і Уладзімір Ганчароў на гэтую тэму прыводзяць урывак з архіўнага дакумента, які адносіцца да другой паловы XIX стагоддзя: *"У Слоніме, адным з даволі вялікіх гарадоў Гродзенскай губерні, пастаянна кватаруюць войскі. Па заявах начальнікаў вайсковых частак, для задавальнення палавых адпраўленняў халастых афіцэраў адчувалася патрэбнасць у публічных жанчынах"*.[1]

Пры гэтым на пачатак 1860-х гадоў у Слоніме налічвалася 29 "публічных жанчын".[2] У пазнейшы час у нашым горадзе дзейнічаў публічны дом Талачынскіх-Мадзеліёвічаў. Мясцовыя ўлады падчас першай праверкі высветлілі, што іх дом падзелены на дзве часткі: у адной жывуць гаспадары, у іншай знаходзіцца публічны дом. У сваю чаргу бардэль перагародкай з дошак быў падзелены на дзве часткі. У адной з іх жылі 5 прастытутак, у іншай яны прымалі кліентаў (там стаялі тры ложкі). У дакуменце адзначаная нізкая столь, недахоп паветра, бруд, які яны пабачылі не толькі на сценах, на століі, але і на пасцельнай бялізне. Безумоўна, гэта было парушэнне. Да таго ж скардзіліся суседзі, бо ў публічны дом прыходзілі і крымінальнікі, нярэдкімі былі п'яныя бойкі і г. д. [3]

Паводле ўсеагульнага перапісу насельніцтва 1897 года, у Слоніме, у якім налічвалася амаль 16 тысяч чалавек, працавалі 13 прастытутак. З іх — 9 яўрэек, 3 рускіх і 1 беларуска. Для параўнання ў Гродне налічвалася 83 прастытуткі (45 яўрэек, 29 полек, 7 беларусак і 2 рускія), у Брэсце — 20 (8 рускіх, па 6 — полек і яўрэек) у Ваўкавыску — 8 (па 2 — беларускі, рускіх, полькі і яўрэйкі).[4]

●Генадзь Гурскі

*[1] Соболевская О., Гончаров В. Евреи Гродненщины. — Донецк, 2005. С. 313.*

*[2] Матеріалы для географіи и статистики Россіи, собранные офицерами генеральнаго штаба. Гродненская губернія. Ч. 2. — Санкт-Петербургъ, 1863. С. 874.*

*[3] Евреи Гродненщины. С. 312-313.*

*[4] Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 года. XI. Гродненская губерния. — С.-Петербург: Типография МВД, 1904. С. 262-263.*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Слонімцы на фотаздымках, 1930-я гады



Вяселле слонімца Мікалая Кадаўбіка, 23 кастрычніка 1938 года.



Марыя Карманава ў 1930-я гады ў фотамайстэрні Дзярэчынскага ў Слоніме. Хто стаіць побач з ёй — невядома.

Жыхарка Слоніма Алена Яфімік паказала аўтару гэтых радкоў свой сямейны альбом. У ім захоўваецца шмат розных здымкаў, пачынаючы з 1930-х гадоў. Гэта не толькі сямейныя фатаграфіі, але і фотаздымкі землякоў, сяброў, знаёмых. Вельмі шкада толькі, што не ўсе яны падпісаны з адваротных бакоў. Але ёсць шмат і падпісаных, на іх стаяць штампы слонімскіх фатографаў. Мне спадабаліся некаторыя, асабліва фотаздымкі слонімцаў у даваенныя гады.

Вось здымкі з вяселля Мікалая Кадаўбіка. Якая прыгожая слонімская пара і якія на вяселлі гулялі тады прыгожыя хлопцы і дзяўчаты, апранутыя ў шыкоўныя касцюмы і сукенкі!



Гледзячы на гэтых маладых слонімцаў, скажыце, калі ласка, калі мы хадзілі ў лапцях і хада-

ках?.. Гэтыя здымкі былі зроблены ў фотамайстэрні Барыса Вайнштэйна, якая знаходзілася на вуліцы Панятоўскага (цяпер — Пушкіна) ў Слоніме.

●Сяргей Чыгрын



Юныя слонімскія непакалянкі (навучэнкі жаночай настаўніцкай семінарыі сясцёр-непакалянак), здымак міжваеннага часу. З яго адваротнага боку на польскай мове напісаныя некаторыя прозвішчы. Сярод слонімскіх дзяўчынак ёсць — Шляга Клара, Мурашкевіч Рэгіна, Лепяшанка Геня, Гажыкуўна Міра, Скаўронская Ядзя, Скатніцкая Данка, Глінская Нюся, Пархута Вера, Навадворская Зоф'я, Ахніцкая Зося і Пянткоўская Рэгіна. Астатнія — невядомыя. Фотаздымак быў зроблены ў фотамайстэрні Барыса Вайнштэйна.

# Слонімскі асяродак здароўя



Гэты здымак быў зроблены ў Слоніме ў канцы 1930-х гадоў. На ім адлюстраваны будынак, у якім да Другой сусветнай вайны знаходзілася медыцынская ўстанова. На здымку па-польску напісана злева: Ośrodek Zdrowia PCK — Асяродак здароўя (медпункт, здраўпункт) Польскага чырвонага крыжа. Справа напісана: Przychodnia Przeciwgruźlicza — Процітуберкулёзны дыспансер (два ніжнія радкі не чытаюцца). Гэты будынак на сённяшняй Камсамольскай вуліцы (былой Замкавай) захаваўся да сённяшніх дзён.

Здымак каштоўны яшчэ і тым, што на ім сфатаграфаваны слонімскія даваенныя дактары. Стаяць на прыступках доктар Маліноўскі, доктар Эфрас, а за Маліноўскім — доктар Антон Лойка. Гэта бацька нашага пісьменніка Алега Лойкі.

●Сяргей Чыгрын

# Слонім, лета 1941 года












У кастрычніку на сайце ebay.de з'явілася некалькі здымкаў, зробленых у Слоніме нямецкімі вайскоўцамі летам 1941 года. На адным з іх бачым будынак банку на цяперашняй вуліцы Васі Крайняга і Свята-Троіцкую царкву. Яшчэ на двух фота зафіксаваны былы гарнізонны храм, у якім савецкія вайскоўцы зрабілі клуб. Над уваходам бачым партрэт Сталіна, на сценах — савецкія прапагандысцкія лозунгі. Паколькі іх не прыбралі, значыць, немцы толькі ўвайшлі ў горад. Уладальнік здымкаў напісаў, што яны зробленыя ў Беларусі. Але гэта на 100% слонімскі храм. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова параўнаць гэтыя фота з іншымі вядомымі яго здымкамі.

Падчас Другой сусветнай вайны і нямецкія, і савецкія войскі выкарыстоўвалі аэрастаты артылерыйскага назірання. Нядаўна на адным з інтэрнэт-аукцыёнаў з'явіўся здымак аднаго такога апарату. Подпіс на яго адваротным баку наступны: *"Артылерыя — назіральнікі перад выхадам. Слонім, 5.7.41".*

Звычайна такія аэрастаты выкарыстоўваліся для карэктавання артылерыйскага агня. Назіральнікі, якія падымаліся ўверх у гандоле, прымацаванай да аэрастата, маглі бачыць пазіцыі праціўніка, перасоўванне тэхнікі і жывой сілы на некалькі дзясяткаў кіламетраў. Але што немцы хацелі пабачыць, калі здымак сапраўды быў зроблены 5 ліпеня? Слонім быў захоплены яшчэ ў чэрвені, лінія фронту была далёка на ўсходзе. Магчыма, нямецкія вайскоўцы проста фатаграфавалі мясцовасць ці правяралі маскіроўку сваіх пазіцый. ●СЁ

# Буклет пра Сынковічы 1979 года выпуску



У 1979 годзе Беларускае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры выдала каляровы буклет пра храмы ў Сынковічах і Малым Мажэйкаве.* З’явіўся ён у мінскім выдавецтве “Полымя” ў серыі “Архітэктурныя помнікі Беларусі”. Аўтар — Уладзімір Трацэўскі. Па цяперашніх часах наклад быў вялізны — 17500 асобнікаў.

Трацэўскі сцісла і дакладна апісвае храм у Сынковічах, адзначае яго асаблівасці, параўноўвае з царквой у Малым Мажэйкаве. Навуковец заўважае, што *“байніцы не толькі служаць мэтам абароны, але і з’яўляюцца сродкам аздаблення вонкавых сцен храма”*. Буклет багата ілюстраваны. Некаторыя здымкі, зробленыя 40 гадоў таму, мы змяшчаем.

Буклет пра храмы-крэпасці, якія трапіў у нашы рукі, на рускай мове. Цікава, можа быў і беларускамоўны варыянт? Дакладна вядома, што праз дзесяць гадоў Трацэўскі ў тым жа выдавецтве выпусціў беларускамоўную кнігу пад той жа назвай.**

●Генадзь Гурскі

**Трацевский В. Церкви-крепости в Сынковичах и Малом Можейкове. — [Мінск, 1979].*

***Трацэўскі У. Цэрквы-крэпасці ў Сынкавічах і Малым Мажэйкаве. — Мінск, 1989.*

Церкви-крепости в Сынковичах и Малом Можейкове











# У Косаўскім палацы знайшлі куфар з манетамі і кнігай

У верасні ў Косаўскім палацы знайшлі невялікі куфар з манетамі пачатку XX стагоддзя і кнігай. БЕЛТА паведамляе, што на яго натрапілі будаўнікі падчас пракладкі камунікацый. На шчасце, за працамі назіраў археолаг. Кнігу, якая аказалася ў кепскім стане, змясцілі ў спецыяльны маразільнік, інакш яна магла быць страчаная. Магчыма, мінскія спецыялісты яе змогуць адрэстаўраваць. Што да куфара і манет, дык яны трапяць у экспазіцыю музея, які дзейнічае ў палацы.

Рэканструкцыя палаца Пуслоўскіх у Косаве працягваецца ўжо дзесяць гадоў. Год таму ў ім адкрылі сціплую часовую экспазіцыю*, якая будзе паступова папаўняцца.

Як вядома, побач з палацам знаходзіцца дом-музей Тадэвуша Касцюшкі.

●Генадзь Гурскі

Фота: БЕЛТА, museumkossovo.by

*У Косаўскім палацы адкрылі экспазіцыю для турыстаў // Слонімскі край, 2017, № 11(21). Лістапад. С. 2.*











# Барэльеф Леаніда Богдана




Мастак і разбяр па дрэве Павел Лявонаў падарыў Слонімскаму краязнаўчаму музею барэльеф з выявай профіля скульптара Леаніда Богдана (1953 — 2017), які так шмат зрабіў для малой радзімы. Як піша "Слонімскі веснік", ініцыятарам быў мастак Пётр Бурсевіч, які стварыў эскіз будучага барэльефа. Ініцыятыву падтрымаў Слонімскі раённы цэнтр культуры, народнай творчасці і рамёстваў.

# У Ізраілі адкрыўся адукацыйны цэнтр "Слонім"

У кастрычніку ў ізраільскім горадзе Эльад адкрыўся адукацыйны цэнтр "Слонім". Ва ўрачыстым мерапрыемстве паўдзельнічаў беларускі амбасадар у Ізраілі Уладзімір Скварцоў. Як паведамляе інфармагенцтва БЕЛТА, старшыня абшчыны слонімскіх хасідаў у Ізраілі Шлома Вайнберг даў пазітыўную ацэнку ўзаемадзеянню, якое існуе з уладамі Слоніма.

ХРОНІКА

# Слонімскія ўлады спрабуюць актывізаваць турыстычную дзейнасць у раёне

Сесія Слонімскага раённага Савета дэпутатаў разглядала сітуацыю з турыстычнай інфраструктурай. Было заяўлена пра "мізэрныя паступленні ў бюджэт", пра неэфектыўнае выкарыстанне "вялізнага турыстычнага патэнцыялу", які мусіць прыносіць у бюджэт немалы даход. І гэта пры тым, што наступныя два гады "знакавыя". У 2019-м у Слоніме адзначаць рэспубліканскае свята — Дзень пісьменства і друку (а яшчэ ў Мінску будуць Еўрапейскія гульні і ў наш горад могуць прыехаць замежныя турысты), а ў 2020-м — 550-годдзе з'яўлення Жыровіцкай іконы Божай Маці.

Цікавым быў выступ старшыні райвыканкама Генадзя Хоміча: *"Слонім у Гродзенскай вобласці трэці горад па насельніцтве, па ўсім і мы неяк пакрыўджаныя… Я не магу зразумець… Як усё роўна па слонімскай зямлі Мамай нейкі прайшоўся. Вёска "ляжыць", у прадпрыемствах прамысловасці стагнацыі вельмі многа. Некалькі прадпрыемстваў толькі нармальна сябе адчуваюць. Гасцініц няма… Чаму ў нас не развіваюцца аграсядзібы, я не магу зразумець. Побач Зэльвенскі раён, Шчучынскі, Мастоўскі, меншыя за нас, а развіваюцца! Што тут не так?... Ці людзі не тыя, ці з'ехалі ад нас усе нармальныя людзі? Чаму так? Хто можа адказаць?.. У турызме павінна пераважваць прыватная ініцыятыва, чаго ў нас няма… Ездзіў глядзець цэнтр турызму на Шасейнай… Бедната. Хто да нас паедзе? І самі не можам туды ўкласці і развіць, і прадаць шкада".*

Хоміч мяркуе, што на Слонімшчыне не хапае прафесійных кадраў, здольных актывізаваць турыстычную дзейнасць. Тым не менш, будуць рабіцца пэўныя захады. У наступным годзе будзе выстаўляцца на продаж вельмі шмат вясковых школаў, якія можна выкарыстаць пад аграсядзібы. Таксама працягнецца добраўпарадкаванне Малога канала Агінскага, працягнецца асфальтаванне пешаходнай дарожкі. Жыровічы з Залессем злучыць веладарожка.



ЖАРТЫ

# Слонімцы не ведалі, што ядуць маманта



Навукоўцы кажуць, што апошняга ў свеце маманта з'елі жыхары Беларусі. Адбылося гэта ў Слоніме. Толькі месцічы (гараджане — "СК") не ведалі, што ядуць маманта. Яны думалі — слон, адно валасаты. А сланоў яны вельмі любілі і нават горад свой назвалі Слонім.

*Жбан Няўмера, С. Маркальскі. Аб мясцох крывіцкіх праўда… // Наша ніва, 2000, № 1, 3 студзеня.*

ХРОНІКА

# Збор подпісаў за ўратаванне палаца Пуслоўскіх

Актывісты з грамадскага аб'яднання "Мінолс" пачалі збіраць подпісы за ўратаванне палаца Пуслоўскіх у Альбярціне, помніка архітэктуры першай паловы XIX стагоддзя. У апошнія дзесяцігоддзі ён знаходзіцца ў занядбаным стане, як і парк каля яго. Скульптуры ляжачых львоў каля галоўнага ўваходу разбураюцца. Подпісы будуць дасланыя мясцовым і абласным уладам, Мінкульту.



"Слонімскі край" — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару Сяргей Чыгрын.

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com